# Самапомач Гатаротаў

Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 2 (55).

Год VI.

Вільня. 10 Сакавіка, 1937 г.

РЭДАКЦЫЯ: Вільня, Полацкая вул. № 9—4.

Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ Вільня, Завальная № 1.


## „Сьпярша мэліорацыя чалавека — пасьля грунтоў"

Гэтак напісаў малады эканаміст Е. М. у № 9 „Kur. Wil.". На першы пагляд ня можна абараніцца ад параўнаньня гэтых словаў з ведамым палітычным клічам царскага міністра Сталыпіна „Сьпярша ўспакаеньне, а пасьля рэформы". Ёсьць аднак між імі і падставовая розьніца: падчас калі кліч Сталыпіна ўжо сучасьнікі ягоныя ацанілі як праяву рэакцыі, думкам Е. М. ня чужыя элемэнты творчага ідэалізму, а прынамся добрай веры. Гэта й ставіць іх незраўнана вышэй. І таму яны заслугоўваюць бліжэйшага пазнаньня. Робім-жа гэта з дзьвюх прычын: 1. каб пазнаёміць нашых Паважаных чытачоў з думкамі бязумоўна лепшае часьці мясцовае небеларускае інтэлігенцыі і каб 2. дапоўніць гэтыя думкі ўвагамі сваімі, беларускімі.

Да пункту 1-га:

Аўтар Е. М. бача патрэбу ўспамагчы ў нас перадусім земляробства, як галоўнае заняцьце перавашаючае большасьці насельніцтва краю. Кладзе пры гэтым асаблівы націск на тое, што „чыньнікам, ад якога ў нашым земляробстве залежаць як вытворчыя працэсы, так і плывучыя з іх карысьці, ёсьць чалавек", які аднак у нас — паводле Е. М. — тымчасам яшчэ не прыгатаваны выкарыстываць утоеныя прыродныя сілы на месцы; ён патрабуе прыгатаваньня — матар'яльных і культурных падставаў жыцьцёвай і гаспадарчай выбойнасьці (экспансіі). Як сягоньня стаіць справа гэтага прыгатаваньня, паказваюць рэзультаты конкурснай анкеты пасярод абсольвэнтаў дванаццацёх ніжэйшых земляробскіх школ на абшары Віленскай Кураторыі: маем сягоньня толькі поўпрацэнта (0.5 прац.) фахова сяк-так прыгатававай моладзі, якая штогод прыступае да самастойнай працы ў сельскай гаспадарцы. Школа фахова-земляробская не здабыла даверу людзей, якія мала туды пасылаюць дзяцей. А і тыя, што гэта робяць, маюць укрытую надзею, што сын іх з ніжэйшай гаспадарскай школы на гаспадарку ўжо ня вернецца, а павінен аглядацца за „пасадай". Сваё разважаньні заканчывае аўтар гэтак: „Уклады характару гаспадарчага — з аднаго боку, а культурныя — у сэнсе прыгатаваньня земляробаў да формаў навачаснай гаспадаркі — з другога, у суме разам толькі могуць быць магутнай панукай, якая здольна зрухнуць земляробства Усходніх Земляў з мёртвай раўнавагі, у якой яно цяпер знаходзіцца".

Да пункту 2-га:

Можна думаць, што аўтар Е. М. шчыра вера ў свае тэзы. Мы іх цэнім так-жа. Але для дабра самай справы ўважаем за патрэбнае пашырыць іх яшчэ больш, і то якраз у тым месцы, куды націскае і Е. М. — на значэньне людзкой асабовасьці ў працэсе вытворства.

Калі й згадзіцца з Е. М., што наш чалавек сягоньня йшчэ „непрыгатаваны да формаў новачаснай гаспадаркі", што „недацэньвае" значэньня фаховай гаспадарскай асьветы, дык гэта мае свае прычыны і ні ў ніякім выпадку не зьяўляецца доказам ягонай віны. Дасьледзіць гэтыя прычыны і імкнуцца да зьністажэньня іх — гэта адзіны правільны спосаб змаганьня за паправу жыцьця нашага чалавека. Якія-ж гэта прычыны?

Адкажам коратка: апошнія сьляды паншчыны. Непрадуктыўнасьць нявольнай працы змусіла афіцыяльна скасаваць у нас фізычную паншчыну йшчэ ў 1861 г. Але **паншчына духовая** трывае па сягоньняшні дзень. І пакуль яна трывае, датуль чалавек наш ня можа быць поўнавартасным чыньнікам прадукцыі. Таму ў імя падняцьця нашага чалавека на вышыню поўнавартаснага чыньніка прадукцыі трэба канешна аб'явіць вайну астаткам паншчыны, а перадусім:

1. прыбліжыць родную беларускую культуру шырокім масам нашага народу і 2. запэўніць гэтай культуры вольнае разьвіцьцё.

Гэтак толькі можам прадставіць сабе „мэліараваньне душы" нашага чалавека. Калі-ж нехта пад відам такой „мэліорацыі душ" хацеў-бы наш беларускі народ „прыабшчыць" да культуры чужой, або „абшчасьлівіць" яго „грамадзкім радыкалізмам", дык мы мелі-б поўнае права гэткім апякуном ня верыць і іх ня слухаць. Спадзяёмся, што Е. М. — а сярод гэтых апошніх ня будзе.

## Мэліорацыя ў Лідчыне

Мэліорацыя грунтоў гэта трывалае паляпшэньне іх, наўперад адвядзеньне лішняй вады ды заваднененьне мясцоў сухіх. У нашых малазямельных гаспадарках гэта мае першараднае значэньне, бо вымагаючы большага накладу працы, зьмяншае безрабоцьце вёскі, а праз зьвялічаны ўраджай павялічвае ейны даход. Зэмліораванае поле — гэта быццам падвоенае поле, так як дабудаваны паверх (этаж) дому падвойвае ягонае абыймо дагэтуляшняе.

Таму вельмі добра паступаюць самаўрады Лідзкага павету, дзе ў мінулым 1936 г. былі зрэгуляваны рэкі: Бердаўка — на просторы $2^1/_2$ клм., Лідзея (у самай Лідзе) — на просторы $1^1/_2$ клм., Дзітва — на просторы 1.800 мэтраў. У гэтым-жа часе зэмліоравана 44 мэліорацыйныя абводы; выкапана пры гэтым 111 клм. равоў, часьць якіх (37 клм.) умацавана плетнем, а часьць абдзернавана (34 тыс. кв. м.).

На 1937 год прадбачана ў Лідчыне выкапаньне $111^1/_2$ клм. равоў і адвадненьне 2.405 гэктараў грунту. Абшар гэты абыймае 67 мэліорацыйных абводаў, у якія ўходзяць 320 вёсак. Пляннаваньне і тэхнічны дагляд мэліорацыйных працаў выконваецца за кошт казны, а работнікаў даюць гміны ў форме шарварку. У гэтым годзе на мэліорацыйны шарварак усе гміны Лідзкага пав. пастанавілі шарварак на агульную суму 130 тысяч зл. На першым месцы пры гэтым аказаліся гміны: Радунь, Жырмуны й Іўе.

Лідчына наперадзе: хто за ей?

241240

## Парцэляцыя ў 1937 і 1938 г.

Згодна з распараджэньнем Рады Міністраў з дн. 12.II. сёл., у 1937 г. з прыватных земляў павінна быць між іншым распарцэлявана ў ваяводзтвах: у Віленскім — 7.000 га., у Наваградзкім—7.000 га., у Беластоцкім — 5.000 га. і ў Палескім — 4.000 га. Гэты плян мевся быць выкананы самымі ўласьнікамі. Дагэтуль выкананы ён толькі на Палесьсі. Дзеля гэтага прымусова павінны выкупіць у 1937 г. у ваяводзтвах: Віленскім — 1 116 га., у Наваградзкім — 2.933 га. і ў Беластоцкім — 886 га.

У 1938 годзе, паводле таго самага распараджэньня, мае быць між іншым распарцэлявана з грунтоў казённых ў ваяводзтвах: Беластоцкім — 1.100 га., Наваградзкім — 50(?) га., Палескім 1.300 га. З грунтоў-жа прыватных, у ваяводзтвах: Беластоцкім — 2.000 га., Віленскім —2.000 га., Наваградзкім—2.000 га., Палескім — 3.000 га.

## Да ведама нашых чытачоў

Разам з апошнім нумарам „Самапомачы" мы разаслалі разрахунковыя пераказы, каторымі найвыгадней, бо зусім дарма можна перасылаць належную нам падпіску.

Скарыстайце-ж цяпер гэныя пераказы. За тры залатоўкі будзеце атрымліваць

**раз у два тыдні**

наш часапіс „САМАПОМАЧ", а акрамя таго дастанеце **ДАРМА** цэнны дадатак у форме календара-кніжкі п. н.

**„Беларускі Сялянскі Календар на 1937 год"**,

у каторым ёсьць вельмі шмат цэнных і цікавых для гаспадаркі вестак.

Свой беларускі гаспадарскі часапіс мусіць быць у кожнай беларускай хаце.

Зьбірайце падпіску групамі па 5 ці 10 чалавек — гэтак падпіска выходзіць яшчэ таней: за 5 штук — 10 зл., а 10 штук толькі 15 зл.

*Адміністрацыя «САМАПОМАЧЫ».*

### Якія двары павінны быць распарцэляваны ў 1937 г. у Віленшчыне і Наваградчыне?

*(паводле „Dz. U. R. P." № 10, 15.II. 1937 г.).*

**У Віленшчыне:** *пав. Дзісенскі:* 1. **275 га.** з двору Старое Парэчча і Вярхі — Оскара Роппа;

*пав. Сьвянцянскі і Віл.-Троцкі:* 2. **591 га.** з двароў: Сужаны з фальв. Бацьвінішкі, Талэйкі, Ласюнішкі, Шчэльгішкі, Шапкаўшчына; Сужаны *А* з фальв.: Гіря, засьц. Гірнішкі, Маяк і лясьніч. Ялінка і Пашарня, Сужаны *Б* з фальв. Шульпішкі, Арняны і Янішкі, фальв. Задворня, Уладыслававa і Мікулін, ф. Майранцы, часьць гаеўкі Велянка, ф. Падбродзе *А*, ф. Пашакіні II і Філіпава з летн. Мэйшатышкі, фальв. Тракіні, кол. Мяшанцы *А* і *Б* — уласнасьць М.-З.-М. Тышкевіча;

*пав. Вялейскі:* 3. **250 га.** з двароў Ганута, Цна і Забалаце – уласн. спадкаемцаў Л. Валловічыхі.

**У Наваградчыне:** *пав. Баранавіцкі:* **4.300 га** з двароў Ястрабля і Лесін — ул. Катлубаяў, Я. Рацібарскай і Г. Мораўскай;

5. **148 га** з двору Ягаліна ўл. спадкаемцаў І. В.-Вэльямінава;

6. **115 га** з двору Дабромысьля — ул. Ант. Юндзіла;

7. **165 га** з двору Савічы — ул. Бол. Вэндорфа;

*пав. Баранавіцкі і Наваградзкі:* 8. **300 га** з двароў: Рудня, Рэгінава і Сянежыцы — ул. Я. Б.-Юндзіла;

*пав. Лідзкі:* 9. **200 га** з двору Іўе — ул. Т-ва Гэллер;

10. **70 га** з двору Гойценішкі— ул. Эдв. Рымшы;

11. **120 га** з двору Бердаўшчына — ул. Бр. Умястоўскага.

*пав. Лідзкі і Наваградзкі:* 12. **320 га** з двароў Бальценьнікі і Райца-Кар лічы — ул. Ян. Жаўтоўскай;

*пав. Нясьвіскі:* 13. **570 га** з Нясьвіскай ардынацыі князя А. Радзівіла;

*пав. Наваградзкі:* 14 **110 га** з двору Уселюб — ул. М. О'Рурк'а;

15. **100 га** з двору Бердаўка — ул. М Кміты.

*пав. Слонімскі:* 16. **170 га** з двору Н.-Дзевяткавічы—ул. Альб. Сьлізеня;

17. **105 га** з двору Шылавічы — ул. Ул. Пуслоўскага.

*пав. Стаўпецкі:* 18. **140 га** з двору Зэдзьвея — ул. Л. Рагульскага.

Колькі і якой зямлі з гэтага дастане наш мясцовы беларускі селянін і на якіх варунках? — вось пытаньне.

## Adkul pachodziać kulturnyja raśliny.

Adkul pachodziać i jak paŭstali roznyja hatunki raślin? — Voś pytańnie, katoraje zdaŭna staralisia raźviazać archeolohi, historyki, linhvistyja j inšyja vučonyja, što niasuć na sabie ciažar navuki „Historyi kultury."

Kab raźviazać hetaje pytańnie, daśledžvali jany astačy kulturnych raślin, dabytych z ehipieckich mumijaŭ, z staŭbovych budoŭlaŭ eŭrapejskich, abo z inšych prahistaryčnych znachadkaŭ. Vykarystali ŭsie histaryčnyja dadzienyja ab vohniščach ziemlarobskaj i ahulnaludzkaj kultury. Navat z jazykova-paraŭnaŭčych doślедaŭ natužvalisia dajšci da zrazumieńnia taho, jakimi šlachami jšlo raźmiaščeńnie kulturnych raślin. Ale ŭsie hetyja sposaby akazalisia nievystarčalnymi i pry pomačy ich dajšli tolki da vielmi ahulnych vynikaŭ.

Słova linhvistaha „pšanica" mała čaho daje sučasnamu botaniku, jaki ciapier viedaje roznyja pšanicy, roznyja hatunki j admieny jaje, katoryja majuć ča sami zusim inšaje pachodžańnie. Matarjały archeolohataksama ščupłyja, prypadkovyja, zvyčajna abvuhlenyja i pa ich vielmi ciažka aznačyć padabienstva astačaŭ raślin. Dosyć, napr., uspomnić, što tyja samyja astačy lonu z staŭbovych budoŭlaŭ Siaredniaje Eŭropy spačatku zaličali da dzikaha vuzkalistnaha lonu (Linum angustifolium), potym — da aŭstryjackaha (Linum austriacum), až nareŝcie vyjavilasia, što heta byŭ naš zvyčajny lon u svajoj zimovaj admienie (*L. usitatissimum hiemale*). Jaho j dahetul razvodziać u niekatorych harystych akolicach Eŭropy, jak Tyrol, Bavaryja j Karyntyja.

Hety prykład lonu, što jak i pšanica, jačmień ci prosa naležyć da prastarych kulturnych raślin, i śviedčyć ab niazvyčajnaj daŭnaści samoj kultury raścin. Jaje ślady siahajuć taho peryjadu, kali čałaviek tolki što pačynaŭ rabić svaje pryłady z palirovanaha kamienia.

Ziemlarobstva, moža, starejšaje ad hukaraździelnaj ludzkoj movy. Stara-ehipiecki nazoŭ pšanicy, napr. hučyć „br." Dyk heta, pa dumcy daśledčyka pieršabytnych movaŭ N. Morra, śviedčyć ab tym, što ludzi razvodzili pšanicu jašče tady, kali z saboju parazumievalisia pry pomačy hestaŭ, moža navat na mihi i pry pomačy nieraździelnych hukaŭ. Tolki zavilaja

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*



## Абгледзьце свой садок!

Мінаюць апошнія ўжо дні зімовага сну нашых садовых дрэўцаў. Яшчэ дзень—другі і пачнецца жыцьцё нанова. Разам з усім добрым і патрэбным, прабудзіцца аднак да жыцьця і цэлая тысячная а нават міліонная армія большых і меншых шкоднікаў нашых садоў. Паміж такіх шкоднікаў, якіх яшчэ час лягчэй зьнішчыць, а якія за кароткі ўжо час пачнуць распаўзацца па ўсім садзе, трэба залічыць *пярсьцёначнага шаўкапрада,* паказанага на нашым абразку.

Дасьпелы гэты шкоднік ёсьць невялікім матылём, з чырвона-бурымі крыльлямі: пярэднія крыльлі цямнейшыя, заднія — сьвятлейшыя і ня маюць папярэчных палосак, якія ёсьць на крыльлях пярэдніх. Матылёк гэты лятае вечарамі ў канцы чэрвеня і аж да пачатку жніўня і складае свае яечкі радамі ў форме пярсьцёнка на маладых галінках яблыні, ігрушы і вішні. Яечкі гэты матыль зьлепліває сваім сьлюзам, які дакладна засыхае і моцна трымаецца праз зіму аж да вясны. Вясной з гэтых яечак выходзяць чорненькія касматыя рабачкі, якія спачатку днём жывуць разам у адным гнязьдзе, а ўночы выходзяць на жыр; аб'ядаюць пры гэтым сочнае лісьцё на дрэвах і гэтым вельмі шкодзяць нашым садом.

Дасьпелае гусеніца (рабак) пярсьцёначнага шаўкапрада становіцца сьветла-сіняй, з белай палоскай на сьпіне і цёмна-чырвонымі па бакох; у гэту пару гусеніцы ўжо выходзяць з гнязда і жывуць кожная асобна. У м-цы чэрвені гэтыя паласатыя рабакі завіваюцца ў коканы (гнёзды) і праз два тыдні з іх выходзяць ужо сьпелыя матылі, каторыя далей кладуць яечкі і далей размнажаюцца.





**Пярсьцёначны шаўкапрад.**
З-права — яечкі, пасярэдзіне — сьпелая гусеніца,
зьлева—сьпелы матыль пярсьцёначнага шаўкапрада.

Гэта ёсьць спосаб жыцьця пярсьцёначнага шаўкапрада. З гэтага вынікае і спосаб барацьбы з ім:

1. Увосені, калі ападзе лісьцё, праз цэлую зіму і вясной, пакуль не распусьціцца лісьцё новае, трэба стала нішчыць добра значныя яечкі пярсьцёначнага шаўкапрада,
2. Няўпынна зьбіраць і нішчыць гнёзды ягоных гусеніц і
3. Абпырсківаць садовыя дрэвы атрутай званай *парыская зелень.* Ёсьць гэта зялёны парашок, які мае ў сабе аршэнік і медзь; таму ня можна яго ўдыхаць, ані браць у рот. Для маладых дрэў бярэцца гэткі склад: 10 грам парыскай зелені, 20—30 гр. нягашанай вапны і 12 літраў вады. Для дрэваў старшых: 20 гр. парыскай зелені, 40—60 гр. нягашанай вапны і12 літраў вады.



**Шчоткі да ачышчаньня кары пладовых дрэваў.**

Акрамя яечак і гнёздаў пярсьцёначнага шаўкапрада, ёсьць яшчэ цэлы радіншых шкоднікаў, якія хаваюцца ў кары дрэва, а якіх цяпер час стуль павыганяць. Цяпер апо-

praca, źviazanaja z ziemlarobstvam, mahła vyklikać patrebu daskanaleńnia ludzkoj movy.

Ničoha dziŭnaha, što stasujučy vyšmienavanyja sposaby (histaryčny, linhvistyčny, archeolohičny) nia možna dajści da aznačeńnia baćkaŭščyny kulturnych raślin. Uvahu na heta zvaročvaŭ švajcarski botanik Dekandol, jaki pieršy daŭ vyčerpyvajučyja vieści ab pachodžańni kulturnych raścin (u 1882 h.). Jon až dla 247 hatunkaŭ ich aznačyŭ baćkaŭščynu tolki na padstavie akreśleńnia tych miascoŭ, dzie rastuć dzika hetyja raściny, abo bližejšyja da ich formy. Hetymi botaničnymi dadzienymi až da apošniaha času ŭsie paźniejšyja daśledčyki vyrašali baćkaŭščynu toj ci inšaj kulturnaj rašliny.

Niadaŭna, bo ŭ kancy 30-ch hadoŭ XX vieku vielmi cikavy pieravarot zrabili dośledy savieckaha vučonaha N. I. Vaviłava j jahonaj škoły.

Asiarodkam pachodžańnia kultyvavanaj raściny N. Vaviłaŭ ličyć tuju akolicu, dzie śćvierdžana najbolšaja kolkaść jaje admienaŭ (rasaŭ). Taki asiarodak roznarodnaści, kali jon jość i asiarodkam formatvorčaści dadzienaj rašliny, maje nia tolki roznyja admieny, viedamyja z kultury ŭ roznych krajoch, ale j mnostva takich formaŭ, katoryja ŭłaścivy tolki hetaj akolicy j bolej nidzie nie sustrakajucca. Heta j było vychadnym punktam u dośledach Vaviłava.

Pieršy raz u historyi vystupili na šyroki šlach systematyčnych dośledaŭ nad pytańniem pachodžańnia raścin. Zapačatkavaŭ heta ŭ 1929 h. Saviecki Instytut Hadoŭli Raślin pad kiraŭnictvam N. Vaviłava, i ŭ praciahu niekalki hadoŭ sabraŭ najvialikšyja ŭ śviecie zbory kulturnych raślin. Tolki samoj pšanicy, napr., Instytut mieŭ u 1929 h. kala 25 000 uparadkavanych arkušoŭ i probak i heta tady, kali Niamieččyna, Francyja, Aŭstryja, Danija j Švecyja razam uziatyja mieli tolki 5 000 arkušoŭ dy j to hieohrafična nieŭparadkavanych.

Užo na pačatku dośledaŭ vyjaviłasia šmat cikavych pravidłovaściaŭ u pašyreńni kulturnych raścin. Nia hledziačy na staraśvieckaść kultury, dla šmat jakich važniejšych kulturnych raślin udałosia zusim ścisła aznačyć asiarodki roznarodnaści j formatvorčaści (baćkaŭščynu). Zajmajuć jany nia bolej 20-j častki pavierchni sušy. Pa miery-ž pastupańnia dośledaŭ napierad, zaciaśniajucca miežy paasobnych asiarodkaŭ i ŭnutry ich zarysoŭvajucca ŭłaścivyja „kratary formatvorčaści" kulturnych raślin (na karcie — kołcy z rysačkami). (d. b.)

шні час паабіраць старую кару, у шчэлінах якой хаваюцца шкоднікі, усё дрэва трэба ачысьціць паверсе шчоткамі і пабяліць вапнай.

Урэшце трэба паабразаць сухія і наагул лішнія сукі, якія недапускаюць у карону сонечных праменьняў. Трэба пры гэтым сьцерагчыся, каб ня рэзаць ані за глыбака, ані за высака.



**Абрэзываньне лішніх сукоў.**

а. Добра абрэзаны сук. b. За глыбака, с. За высака, d. Як абрэзываць?: 1 — глыбака, 3 — высака, 2 — добра.

**В. Р.**

## Варыва ў гаспадарцы

*(З „Беларускага Сялянскага Календара на 1937 год").*

### Колькі зямлі трэба пад гарод.

Каб мець гародніну для уласнага ўжытку, ня трэба многа зямлі. Калі ў гаспадара блізка хаты знойдзецца кавалак адпаведнага грунту на якіх 50 мэтраў даўжыні і 20 м. шырыні, дык гэтага й хопе. Такі гарод будзе мець нейкіх 100 араў паверхні і дасьць гародніны на круглы год для сярэдняй сям'і з 5 душ.

### Месца пад гарод.

Гарод ня любіць як нізкіх сырых грунтоў, так і вельмі высокіх, сухіх. Найлепшае месца—роўнядзь з лёгкім нахілам на паўдзень або паўднёвы захад, нават і на паўднёвы ўсход. Унікаць нахілаў на поўнач і на ўсход, бо на іх гародніна будзе цярпець ад халадоў; унікаць так-жа вельмі вялікіх нахілаў на поўдзень, бо тутака гародніна будзе выгараць ад сонца. Добрае для гароду месца пры ставох, рэках і вазёрах—тутака ня так шкодзяць прымаразкі, якія ў нас вельмі частыя вясною і ў пачатку лета. Ад поўначы і ад усходу гарод павінен быць забясьпечаны ад халодных вятроў будынкамі: садам або лесам, але бліжэй, чым на 20—40 мэтраў, гарод не павінен падходзіць да лесу, бо карэньні дрэваў будуць сушыць гарод. Пад расаднікі і парнікі абавязкава трэба адводзіць мясцы, дзе болей сонца— найлепш пры будынку з паўдзённага боку.

### Грунт для гароду.

Для гароду той грунт найлепшы, каторы мае глыбокі верхні перагнойны пласт зямлі. Грунт можа быць суглінкам або пяшчаным чарназёмам, абы толькі не ілаваты ці тарфяністы. Гліністы грунт можна палепшыць, дадаючы торф, пясок, саломісты гной, вапну, мэргель. Для пяшчаных грунтоў лепшае лякарства — гліна, торф і гной. Сугліністыя і супяшчаныя грунты кожны год удабраюцца гноем. Грунт пад гарод павінен быць рыхлы. Таму ён мусіць быць перакапаны на глыбіню прынамсі да 40 сантымэтраў.

### Удабрэньне гародаў.

Самым звычайным удабрэньнем у сялянскай гаспадарцы служыць хляўны гной. На гарод 10 араў*) паверхні трэба хляўнога

*) ар мае 100 кв. м. (напр. 10 м. удоўжкі 10 м. ушыркі).

**Інж. Ад. Клімовіч.**

## Асновы земляробскай эканомікі. 1)

### Што такое земляробская эканоміка?

Не заўсяды добра гаспадарыць той, хто з поля й агароду зьбірае вялікія ўраджаі, а ў хляве гадуе дарагую жывёлу. Але добра гаспадарыць той, хто найменшым коштам патрапіць асягнуць найбольшы і трывалы даход. Аднаму гэта ўдаецца лепш, іншаму горш. Кожны з іх аднак — часта нясьведама — кіруецца пры гэтым правіламі *земляробскай эканомікі,* якая дасьледжвае граніцы, да каторых можна ўжываць ў гаспадарцы розныя тэхнічныя й эканамічныя здабычы. Пазнаць гэтыя правілы і імі кіравацца мусіць кожны гаспадар — земляроб.

У істоце сваей земляробская эканоміка дзеліцца на гэткія аснаўныя аддзелы:

I. Агляд і ацэнка чыньнікаў земляробскай вытворчасьці.

II. Арганізацыя земляробскай гаспадаркі.

III. Кіраваньне земляробскай гаспадаркі.

IV. Земляробская рахунковасьць.

Перш як прыступіць да зазнаямленьня з зьместам і значэньнем гэтых складовых разьдзелаў, мусім пазнаць

### Аснаўныя паняцьці земляробскай эканомікі,

з каторымі пры дальшых разважаньнях будзем стала спатыкацца. Маем пры гэтым наўвеце: натуральны прыбытак, сыры прыбытак грашавы, гаспадарскі наклад і кошты прадукцыі, чысты прыбытак, розьніцу чыстага прыбытку, зыск прадпрыемцаў, даход прадпрыемцаў і даход народна-гаспадарскі.—Каб лепш зразумець, што значаць гэтыя паняцьці, возьмем найпрасьцейшы прыклад. Наперад зазначыць толькі трэба, што лічбы гэтага прыкладу могуць надта далёка адбягаць ад рэчаістасьці: іхным заданьнем ёсьць толькі паясьненьне суадносінаў паміж гаспадарскімі працэсамі, а не „фатаграфаваньне" гэтае рэчаістасьці.

Вот-жа прадставім сабе напрыклад гэткую гаспадарку:

Нехта N гаспадарыць праз адзін год на адным гэктары сенажаці, цана якой 500 зл. Сенажаць гэта дае ў год 30 q (q=мэтрычны цэнтнар = 100 кілёграмаў = 6 пудоў і 10 фунтаў) сена й атавы, якую гаспадар прадае на месцы па 6 зл. за 1q. На сенажаці гэтай працуе толькі сам гаспадар з сям'ёй. Снасьць гаспадарская, патрэбная да культурнага вырабленьня й ўтрыманьня сенажаці, мае агульную вартасьць 80 зл., а ўжываньнем ейная вартасьць абніжаецца праз год на 10 проц., г. зн. на 8 зл. Апрача таго гаспадар гэты мае на зварот (на куп-

гною каля 250 пудоў ці каля 10 вазоў, але на бедных грунтох класьці яго трэба яшчэ больш. Звычайна гной кладзецца адзін раз у 3 гады, пад капусту. Для гароду самымі адпаведнымі гнаямі будуць: конскі на парнікі, на цяжкія грунты, дзе яго раськідаюць з восені, потым авечы і нарэшце каровіны, каторы ўжываецца пераважна на супясі. Добрая й мешаніна з гэтых гнаёў, хоць яна дзее памалу, але доўга.

### Выраб грунту.

Грунт на гародзе вырабляць трэба ўжо з восені, калі яго аруць або перакопываюць з гноем на сантымэтраў 15 або бяз гною на сант. 30. Зямля не разьбіваецца, а пакідаецца на зіму ў камох — яе добра разрыхліць мароз. Вясною як найраней барануюць, каб зямля не перасохла, а потым аруць або перакопываюць. Калі ўвосень аралася або капалася на 15 сант., дык цяпер арэцца на сант. 30 і наадварот. Гной на цяжкіх грунтох кладзецца ўвосень, а на лёгкіх — вясною.

**Заканчэньне гэтага артыкулу і шмат іншых цэнных у гаспадарцы радаў знойдзеце ў кніжцы „БЕЛАРУСКІ СЯЛЯНСКІ КАЛЕНДАР на 1937 г.“, які высылаем ДАРМА кожнаму, хто да канца сакавіка (марца) прышле нам гадавую падпіску.**

## Будуйце гнёзды для птушак.

У апошнім нумары „Самапомачы“ мы пісалі аб патрэбе падкормкі птушак узімку. За мала вартасны пожыў, як крошкі, посьлед, вясной птушкі адудзячваюцца ў сотні разоў, баронячы пладоў, дрэў садовых, агародніны і інш. Але праз зімку ў нас астаецца ад розных шкодных рабакоў толькі мала такіх птушак; шмат іх прылятае да нас толькі з настаньнем вясны. Іх трэба старанна тады прыняць, каб загнезьдзіліся ў блізкасьці людзкога жыльля.



**Будка на гняжджэньне птушак.**

Зрабіць гэта зусім лёгка. Ня трэба нават найменшага грашовага выдатку. Хваціць крыха добрай волі і пара хвілін часу, дзеля завешаньня на дрэвах адпаведна зробленых будачак. Адна такая будачка паказана на далучаных рысунку.

У добра зробленым і адпаведна ўстаўленых будачках птушкі загнежджываюцца вельмі ахвотна. Справа йшчэ лягчэйшая, калі птушак праз зіму падкормлівалі ў садзе, і праз гэта прывыклі да данага месца.

Будку для птушак збудаваць можа кожны сам на падставе ўласных помыслаў. Адзін з такіх помыслаў паданы на рысунку. Можна так-жа зрабіць будку з дупляватага кругляка. Трымацца трэба аднак засады, каб будкі ня былі ані завялікія, ані замалыя, мяркуючы паводле таго, для якіх птушак яны прызначаны. Лётная дзірка мусіць быць у верхняй частцы, а вялічыня яе павінна быць так жа дапасавана да вялічыні птушкі. Дно будачкі лепш рабіць няшчыльнае, каб не затрымлівалася дажджавая вада. Стрэшка павінна быць шчыльная і крыху нахіленая ўперад. Некаторыя птушкі, як мухалоўка, любяць будачкі без пярэдняй сьцяны.

Ставіць будкі трэба на адпаведнай вышыні, бо кожны род птушак мае іншыя вымаганьні. Меншыя птушкі любяць ніжэй, ад 3 да 4 мтр., большыя, напр. шпакі, вышэй на колькі можа пазволіць дрэва. Для шпакоў на адным дрэве можна ўстаўляць некалькі будак. Меншыя птушкі, апрача вераб'ёў, ня любяць блізка сябе гнязьдзіцца і патрабуюць адлегласьці ад сябе найменш 30 мтр. Ставіць будкі трэба дзіркай на ўсход, або паўдзённы ўсход.

Далётная дзірка мусіць мець добры далёт, гэта значыць, каб яе не закрывалі галінкі дрэва. Вельмі важным ёсьць, каб да будкі ня мог дабрацца кот.

*М. К.*

лю гнаёў і г. д.) 120 зл. гатоўкі. Знача агульная вартасьць усей гэтай аднагэктарнай гаспадаркі раўняецца:

| | | |
|---|---|---|
| | 1 га. сенажаці . . . . . . | зл. 500 |
| + | гаспадарская снасьць . . . | „ 80 |
| | зваротны капітал (гатоўка) . | „ 120 |
| | Разам | зл. 700. |

Гэтыя 700 злотаў, у якіх месьціцца ўся вартасьць умоўленай намі гаспадаркі, гэта *актыўны* (ці чынны) *капітал* гаспадаркі, аб чым будзе мова пазьней.

Сенажаць дае ў год 30 q сена й атавы; гэта ёсьць *натуральны прыбытак*. А калі мы сена й атаву прадамо (у нашым выпадку па 6 зл. за q) і атрымаем (6×30) 180 зл., дык гэтыя 180 зл. будуць ужо называцца *сырым прыбыткам грашавым*.

Але, каб атрымаць сыры грашавы прыбытак, гаспадар мусіць палажыць пэўнае мноства працы і капіталу. Сюды належаць: аплата за працу ў гаспадарцы самога гаспадара (прадпрыемцы), ягонай сям'і і асоб нанятых, а таксама ўсе выдаткі гатоўкай Працэнты ад даўгоў сюды не залічаюцца. Уся гэта сума працы й капіталу, выражаная ў грашах, састаўляе *гаспадарскі наклад*.

| | | |
|---|---|---|
| | Праца . . . . . . . . . . | зл. 30 |
| + | Капітал: амортызацыя гас. снасьці | 8 |
| | —о— угнаеньня . . . . . | 60 |
| | Падаткі , . . . . . . . . | 12 |
| | Гаспадарскі наклад | зл. 110 |

Калі-ж да гаспадарскага накладу дадаць яшчэ працэнты ад усяго ў гаспадарку ўложанага капіталу, дык атрымаем *кошты прадукцыі*.

| | | | |
|---|---|---|---|
| | Гаспадарскі наклад . . . . . | | зл. 110 |
| + | 3 проц. ад зл. 500 (сенажаць) | зл 15 | |
| | 6 проц. „ 80 (снасьць) | 4.80 | |
| | 7 проц. „ 120 (угнаеньне) | 8.40 | . „ 28.20 |
| | Кошты прадукцыі | | зл 138.20 |

Далей, калі ў нашым прыкладзе ад сырога грашавога прыбытку адыймем гаспадарскі наклад, дык атрымаем *чысты прыбытак*, які прадстаўляе сабой апрацэнтаваньне ўсіх — собскіх і пазычаных, уложаных у гаспадарку капіталаў. Зразумелая рэч, што апрацэнтаваньне пазычаных капіталаў зьмяншае даход з гаспадаркі. Ясна згэтуль, што прыбытак і даход гэта дзьве розныя рэчы.

| | | |
|---|---|---|
| — | Сыры прыбытак грашавы . . | зл. 180 |
| | Гаспадарскі наклад . . . . | „ 110 |
| | Чысты прыбытак | зл. 70 |

*Хто піша ў рэдакцыю, хай заўсёды піша выразна. Асабліва выразна трэба пісаць сваё імя, прозьвішча і пошту. Артыкулы празначаныя ў друк акрамя таго трэба пісаць толькі з аднаго боку аркуша.*

## Правілы язды на публічных дарогах

Усё часьцей і глыбей заяжджае ў нашы сёлы аўтабус, мотоцыкль ці іншая машына. Спатыкаюць яго нашы конныя фурманкі і пры разьмінаньні нязраз здараюцца няшчасьці. З часам праезды машын будуць напэўна часьцейшымі. Таму трэба прыпомніць найважнейшыя законам установленыя правілы язды па публічных дарогах, каб усьцерагчыся выпадкаў і прыкрых штрафаў; тымбольш, што ад 1.IV. пачынае сьцерагчы парадку на дарогах адумысловая дарожная паліцыя, як аб гэтым ужо пісалася ў апошнім нумары „Самапомачы“.

Ніжэйпаданыя правілы бяром з працы праф. С. Скочыляса:

1. На кожнай публічнай дарозе трэба ехаць правай стараной.

2. Фурман ня можа кідаць лейцаў з рук, а тымбольш адыходзіць ад возу.

Кожны конь павінен быць закелзаны. Лейцы да аднаго каня павінны мець форму літары „V“, а не т. зв. крыжакі ў форме літары „Y“. Фурман мусіць быць чалавек дарослы, цьвярозы, здаровы і прытомны (ня сонны).

3. На сыгнал ззаду мэханічнага возу (аўтабус, мотоцыкль і т. п.) вазьнік (фурман) павінен пакіраваць воз як найбольш да правай стораны, каб даць месца машыне.

Калі коні палахлівыя, дык вазьнік падняцьцем рукі можа затрымаць аўтабус, каб зьлезьці з возу і прытрымаць каня за храпы, шофар абавязаны памалу і як найцішэй пераехаць. Калі каторы шофар гэтага ня зробіць, можа быць пакараны: трэба толькі заўважыць і запамятаць нумар ягонай машыны, які заўсяды павінен быць прымацаваны спераду і з-заду, а уночы — асьвечаны.

4. З бочных дарог на шасу трэба ўзьяжджаць шыбка і як найскарэй заняць правую старану.

5. Ня можна затрымліваца на дарозе без паважнай прычыны, а калі такая здарыцца, то трэба зьехаць зусім на правую старану.

6) Ня можна пакідаць на дарозе выпражаных коняў без апекі.

7. Багаж везены на возе мусіць быць добра ўмацаваны. Ня можна выкідаць, а нават губляць рэчаў (як цэглы, палены), якія маглі-б перашкаджаць другім вазом, ці людзям. Ня можна таксама засьмячаць шасы.

8 На кожным вазе з левай стараны павінна быць дошчачка вялічыні 25×15 см., з надпісам: імя й прозьвішча ўласьніка возу, а таксама воласьць і павет.

9) Пры кожным таксама вазе з левай стараны павінен быць фанар.

10. Тормазы мусяць быць такія, каб толькі перашкаджалі калясу круціцца, а не затрымлівалі яго зусім. Дзеля гэтага ня можна каляса прывязываць, укладаць кій паміж сьпіцаў, або падкладаць пад калясо жалязяка, бо ў гэтых выпадках псуецца калясо і шаса.

11. Разьмінаючыся трэба зьвярнуць управа, каб не зачапіцца.

12. Абмінаць можна тады, калі проціў нас у гэты час ніхто ня едзе. Абмінаць ня можна на мастох, на заваротах з вялікай гары. Пры абмінаньні мусім папярэдзіць вазьніка, якога хочам абмінуць.

13. Ня можна запрагаць у воз каня кульгавага, абмулянага, хворага і наравістага.

14. Ня можна ехаць шыбка на нявідочных заваротах, па масьце з надпісам „jechać stępa“ і скрыжаваньні дарог.

15. Па драўляных мастох ня можна ехаць з незабясьпечаным агнём і ня можна бліжэй як 150 мтр. ад маста раскладаць агню.

16) Перад корчмамі, рэстарамамі і г. д. можна станавіцца толькі на мясцох да гэтага прызначаных, ніколі ня можна станавіцца на дарозе.

17. Два вазы едучы напроціў не павінны затрымывацца адзін каля другога, а найменш на 15 мтр. уздоўж шасы.

— ч.

*Куток для гаспадынь.*

## Як разьвіваецца куранё?

Куранё ў яйку пад курыцай, ці ў машыне званай інкубатар, разьвіваецца стала ўстаноўленым парадкам. Гэты парадак відаць з наступнага абразка.



1. Яйко на 16-тым дню, 2. незаплодненае яйко, 3. яйко, у якім плод замёр, 4. добра заплодненае яйко на 5-тым дні пасьля наседжаньня.

### Лікер з малака.

Бяруцца: 1 літр салодкага малака, 1 літр чыстага сьпірту, 2 палачкі ванілі, 2 цытрыны, 80 дэка цукру. Цытрына і ванілія крояцца, усё разам мяшаецца і ставіцца на 10 дзён у памяшчэньні з хатняй тэмпэратурай. Па гэтым часе мешаніна фільтруецца (цэдзіцца) праз фільтровую паперу.

## Дробныя рады.

### Ці краты шкодныя?

Уся шкода іх у тым, што выкідаюць на верх капцы зямлі. Гэта чалавек бача і таму яму здаюцца краты шкоднымі. Ёсьць аднак рэчы, якіх чалавек ня бача, а якія для яго вельмі карысныя — гэта тое, што крот рыючыся ў зямлі пажырае там аграмаднае мноства розных шкодных рабакоў, якія размножыўшыся падгрызаюць карэньне расьлін. Расьліны гэткія пасьля гінуць, а чалавек „зьверху“ гледзячы, ня ведае, якая гэтага прычына.

Дзеля гэтага ня можна ўважаць крата за шкодніка ў гаспадарцы, а за прыяцеля.

### Лякарства проці глістоў у сьвіней.

Добра памагае ад гэтага скармліваньне жалудоў або каштаноў, падпражаных прад тым на патэльні. Добра таксама часам памагае кваснае малако, сыраватка, кіслая капуста. Калі-б аднак і гэта не памагло, дык тады трэба заказаць у аптэцы мешаніну з: аднэй часьці жывёльнага алею (*oleum animale*) і трох частак францускай тэрпэнтыны. Мешаніну гэту даваць раз у дзень па малой лыжачцы, большым штукам — па паўтары лыжачкі ў працягу 2—3 дзён, а пасьля даць на прачышчэньне.

## ГАСПАДАРСКАЯ ХРОНІКА

**Белы вугаль.** Дзеля электрыфікацыі Слонімскага і Баранавіцкага раёнаў, у фаховых колах паўстаў праект пабудаваньня электроўні з воднай турбінай на р. Лахозьве каля в. Гаць. Рахуюць, што такая электроўня лёгка магла-б выробляць найменш 1.200.000 кілёватгадзін, якія абыйшліся-б значна таней, чым у электроўнях з турбінамі паравымі.

**Пераацэнка грунтоў ідзе памалу.** Пачатая ў верасьні 1935 г. ва ўсей Польшчы праца над пераацэнкай грунтоў, дзеля ўстанаўленьня правільных падаткаў, пасуваецца ўперад на нашых землях вельмі павольна. Падчас калі ў Пазнаншчыне гэта праца ўжо канчаецца, а ў Галіччыне дайшла да 64 прац., — у Віленшчыне ледзь дасягла 21 прац, у Наваградчыне — 35 прац., у Беласточчыне — 39 прац. і на Палесьсі — 44 прац.

**Заработкі з Латвіі.** У справе доўга няпрысыланых грошаў за летнія заработкі з Латвіі, латвійскі консул у Вільні выясьняе, што прычынай была зьмена курсу (вартасьці) латыскіх грошаў. Цьвердзіць пры гэтым, што латвійскія ўлады стараліся, каб нашы работнікі на гэтай зьмене не пацярпелі і таму трэба было рабіць шмат захадаў, а пасьля пераразховываць заработкі кожнага работніка на іншых падставах. Праца гэта ўжо кончана і самая рассылка грошаў хутка так-жа кончыцца.

**У Латвію на работу** сёлета будуць браць ужо ў м-цы сакавіку. Кандыдатаў выбірае гміна, прыймаючы пад увагу, хто колькі мае зямлі, ці патрабуе заработку і ці здаровы.

# Што чуваць на сьвеце

### Крыжавы паход?

Газэты падалі вестку, што нямецкія вайсковыя ўлады выдалі загад, каб войска прыймала ўчасьце ў нядзельных набажэнствах. — На ўрачыстасьці адчыненьня Дому Гітлераўскай моладзі, ад імя Гітлера прамаўляў маршал ф. Макензэн. Сказаў ён, між іншым, што „прад народам нямецкім стаіць расправа з бязбожнікамі на ўсходзе... Ня справіцеся з імі, калі ня будзеце мець рэлігійнай апоры ў веры хрысьціянскай"... — Дагэтуль, як ведама, нямецкія гітлераўцы былі вельмі склонныя да культу новапаганства.

### Варожаць зьмены.

Сёлета ў студні м-цы меўся адбыцца ў СССР усесаюзны зьезд камуністычнай партыі. І не адбыўся. Францускія-ж камуністы зьвярнуліся да сацыялістаў з прапановай зьліцца ў адну партыю, ня ставячы пры гэтым ніякіх варункаў. З гэтага, а так-жа з нядаўнага прысуду перадавых бальшавікоў і відомага ўклону ў бок расейскага патрыятызму газэты дадумываюцца, што Сталін ідзе на замену бальшавізму расейскім патрыятызмам, а перадусім на ліквідацыю нявыгоднага сягоньня для Масквы Комінтэрну. — Колькі ў гэтым праўды — пакажа недалёкая хіба ўжо будучыня.

### Кантроля гішпанскіх граніцаў.

Вайна ў Гішпаніі прыняла міжнародны характар, бо як з аднэй, так і з другой стараны ваюе шмат „ахвотнікаў" — нягішпанцаў. Нягішпанская так-жа ў іх і зброя. Гэткі спосаб ваяваньня мог-бы прадоўжыць вайну на доўгія гады. Каб вайну гэту скараціць, у Лёндыне ўтварыўся „кантрольны камітэт", сябры якога маюць кантраляваць берагі гішпанскага мора й граніцы, каб тудою ня прывозілася ў Гішпанію ні зброя, ні „ахвотнікі". Кантроля пачалася 21 лютага. Праводзяць яе: Англія, Францыя, Нямеччына й Італія. Ці яны „укантралююць"?

### Кніжка пасла Шэбы.

Чэхаславацкі пасол у Румыніі Ян Шэба напісаў нядаўна кніжку п. н. „Расея і Малая Антанта ў сусьветнай палітыцы" (Малая Антанта — гэта саюз Чэхаславаччыны, Румыніі і Югаславіі), у якой, між іншым, ёсьць мова і аб сучасным праўным і фактычным палажэньні Беларусаў. Кніжка гэта выклікала незадаваленьне (чаму?) у урадавых колах Румыніі і Югаславіі, у выніку чаго сам аўтор Шэба прасіў свой урад, каб яго — Шэбу — адклікаў з дагэтуляшняга становішча: просьба споўнена. Прадмову да гэтай кніжкі напісаў міністр загранічных спраў Чэхаславаччыны Д-р К. Крофта. Кніжка гэта ў Польшчы забаронена.

### У Абісыніі ня сьціхае.

У Аддіс-Абэбе, сталіцы падбітай італіянцамі Абісыніі, у белы дзень 19.II.37 з натоўпу людзей нехта кінуў бомбу, абломкамі якой цяжка ранены быў камандзер італіянскіх лятуноў ген. Ліотто, лягчэй ранены віцэ-кароль — італіянскі маршал Грацiані і абуна (біскуп) коптыйскай царквы Кірыл. Было арыштавана пасьля гэтага 2000 людзей і больш паловы з іх ужо растраляны.

# У нас і ў суседзяў

*„Беларускую Крыніцу" суд апраўдаў.* 25 лютага сёл. Віленскі Гарадзкі Суд разглядаў справу канфіскаты № 48 „Бел. Крыніцы" за 1936 г., за каторы яна была і спынена. Суд, разгледзіўшы цэлую справу, канфіскату гэтага нумару „Бел. Крыніцы" і наказ спыненьня зьняў.

*Пад надзорам паліцыі.* 27 лютага сёл. рэд. Я. Пазьняк быў паведамлены, што ён, у зьвязку з судовымі справамі за „Беларускую Крыніцу", павінен кожны тыдзень яўляцца ў паліцыю.

*У справе беларусаў* выступала 18.II.37 ў польскім Сойме пасланка В. Пэлчынская. Даказывала яна, што рух беларускі ёсьць рухам натуральным, мае сваю будучыню і што беларусы ня спольшчацца. Спыненьне „Бел. Крыніцы" п. В. П—ая уважае за памылку. З недастатку газэты беларускай, беларусы пачынаюць чытаць газэты расейскія. Польшч на гэтым быццам толькі праігрывае.

*Лекцыя Кс. Ад. Станкевіча ў Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы.* 7 сакавіка сёл. ў Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце Кс. Ад. Станкевіч прачытаў лекцыю аб праф. М. Бараўскім.

*Канфіскаты.* 28 лютага сёлета адмін. ўлады сканфіскавалі аднаднёўку „Беларуская Доля", якую ўлажыў і выдаў Язэп Ярмалковіч. Сканфіскавана так-жа кніжка Улад. Ініцкага „Сон Гаўрылы", выданая ў 1929 г.

*У беларусаў-каталікоў.* 14.II.37 адбыўся агульны гадавы сход Т-ва „Беларускае Каталіцкае Выдавецтва". Старшынёй Т-ва на далей выбраны Кс. Ад. Станкевіч. З Ураду Т-ва выбыў Кс. Гадлеўскі, на месца якога выбраны Кс. Я. Гэрмановіч.— Ад 25 да 28 лютага Кс. Я. Гэрмановіч кіраваў вялікапоснымі рэколекцыямі Віленскіх беларусаў-каталікоў.

*Сярод беларускае вучнёўскае моладзі.* 14.II.37 адбыўся гадавы сход Гуртка Прыяцеляў Беларускіх Скаўтаў. Старшынёй Гуртка і на далей астаўся вучыцель Віл. Беларускай гімназіі Кс. Глякоўскі. — 3.III.37 вучні Віл. Бел. Гімназіі ладзілі канцэрт-вечар. Сьпяваў хор пад кіраўніцтвам Р. Шырмы.

*Аўторскі Вечар Н. Арсеньневай.* Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце разам з Беларускім Студэнцкім Саюзам ладзілі ў нядзелю 17 студня сёл. Аўтарскі Вечар беларускай паэткі Натальлі Арсеньневай. Паважаная поэтка прачытала цэлы рад найнавейшых сваіх поэтыцкіх твораў, дагэтуль нігдзе недрукаваных.

*Спужаліся ці застыдаліся?* Апошні нумар (3) „Бел. Фронту,“ крытыкуючы ўсіх, не абмінуў і наш часапіс. На добры лад нічога ў гэтым дзіўнага. Але... перасаліў. Мусіць крытыкі гэта так-жа зразумелі і сябе самых застыдаліся, бо з усяго „фронту чатырох(!) рэдактароў“, астаўся толькі адзін — адказны: рэшта некуды пахаваліся. — Можа й добра зрабілі. Але напэўна лепш зрабілі-б, калі-б пахавалі разам і свой „Фронт,“ які ўжо й так сваю „роль“ споўніў на 100 проц.: дзяліць болей ужо няма каго, а паказвацца надутым знаўцом беларускай музыкі, як гэта зрабіў анагдай у бязглуздай „крытыцы“ Беларускага Хору Р. Шырмы, — гэта-ж роўнае самаасьмяшэньню.

*Супольны запусны вечар студэнтаў беларусаў, літоўцаў і украінцаў* — адбыўся 6 лютага сёлета ў залі ім. Вітаўта Вялікага пры вул. Домброўскага № 5 у Вільні.

## У ЛІТОЎЦАЎ.

*Народнае літоўскае сьвята.* 16 лютага сёл. літоўцы ўрачыста сьвяткавалі 19-я ўгодкі абвешчаньня свае незалежнасьці. У Коўну на гэта сьвята прыяжджаў шэф штабу СССР маршал Егораў. Сьвята гэта адпаведна сьвяткавалі і літоўцы віленскія.

*Адв. Юхневіча апраўдалі.* Ведамы літоўскі дзеяч у Вільні адвакат А. Юхневіч быў абвінавачаны за „niechęć do Państwa Polskiego“, бо быццам пашыраў часапіс „Jaunimo Draugas“, на вокладцы каторага быў адпаведны артыкул і рысунак. Суд аднак ня бачыў у закідах дэманстрацыйнасьці і абвінавачанага 16.II.1937 апраўдаў.

*Забаранілі.* 12 лютага сёл. Віленскае Ваяводзтва забараніла ўсякую дзейнасьць аддзелаў, гурткоў і таварыстваў Літоўскага Земляробскага Т-ва ў Вільні на абшары прыгранічнай паласы Віленскага ваяводзтва.

16 лютага тое-ж Ваяводзтва пацьвердзіла выданую перш Віленскім Гарадзкім Стараствам забарону дзейнасьці Літоўскага Тымчасовага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, зазначаючы, што гэта ня выключае справы рэестрацыі прадстаўленага праекту статуту т-ва „Літоўскі Нацыянальны Камітэт“.

*„Віленскі Інстытут“ у Коўне.* Газэты пішуць, што Літоўскі Саюз Вызваленьня Вільні апрацаваў і падаў да зацьверджаньня статут новага „Віленскага Інстытуту“, — навуковай установы, якая будзе займацца вывучэньнем этнографіі, гісторыі, культуры, гаспадаркі і грамадзкіх, праўных і палітычных праблемаў Віленшчыны. Дырэктарам Інстытуту будзе праф. М. Біржышка, б. старшыня „Саюзу Вызваленьня Вільні“.

## У ПАЛЯКОЎ.

*„Старшыя браты“.* На паседжаньні дыскусыйнага Клюбу паслоў і сэнатараў б. учасьнікаў барацьбы за незалежнасьць (Польшчы) дня 17.II.37 г. палк. Медзінскі гаварыў далей аб сваіх паглядах на будучыню польскай палітыкі. Аснаўныя пункты гэтай палітыкі: нацыяналізм, рэлігійнасьць, барацьба з рухамі дэцэнтралізацыйнымі і грамадзкі радыкалізм. Гэтак званыя нацыянальныя меншасьці ў Польшчы прэлегент падзяліў на тры групы: 1. жыды, 2. аўтохтонныя меншасьці славянскія і 3. меншасьць расейская й нямецкая. Адносна „аўтохтоннай меншасьці славянскай“ (беларусаў і украінцаў), паводле палк. Медзінскага, палякі павінны быць *старшымі братамі.*

*OZN — Obóz Zjednoczenia Narodowego* у Польшчы 21.II.1937 г. пачаў арганізаваць палк. Коц, у паразуменьні з марш. Сьміглым. Тымчасам гэта ёсьць зьменшанае ББ: афіцыяльна няма ў ім ані левага крыла „направячаў“, ані правага — абшарнікаў. — Для беларусаў „новы“ абоз нічога новага ня прыносіць, з камуністамі змагаецца, аб фашызьме маўчыць.

*Ня згубілі апэтыту.* У І-шай палове лютага адбыўся зьезд эндэцкіх інструктараў на вёсцы. Была там мова і аб зямельнай рэформе. Галоўны рэфэрэнт праф. Станішкіс наракаў, што закон пры парцэляцыі на „Крэсах“ быццам „дае пяршынство жыхаром суседніх вёсак“ і ставіў уладам дамаганьні, каб „зямля з парцэляваных гаспадарак не пераходзіла ў чужыя рукі“, г. зн. няпольскія. А далей проста дамагаўся сыстэматычнай колёнізацыі „Крэсаў“ польскімі асаднікамі.

Колькі беларускія „жыхары суседніх вёсак“ скарысталі з законнага „пяршынства“ пры праводжаньні зямельнай у нас рэформы дагэтуль — кожны ведае. А эндэцкім заправілам і гэта баліць: ім відавочна хочацца, каб наш селянін не дастаў нічога. І пасьля ўсяго гэтага прыслужнікі гэтай „народовай“ эндэцыі прыкідаюцца „прыяцелямі“ нашага селяніна, паказваючы на „жыдоўскую небясьпеку“.

*Паляваньні* ў Белавескай пушчы сталіся в. моднымі. Сёлета, у другой палове лютага, акрамя высокапастаўленых паляўнічых з Польшчы, прыяжджалі туды на паляваньне так-жа прэм'ер Прусіі й Нямеччыны ген. Герынг, прэзыдэнт Гданску Грайзэр, сын мадзярскага рэгента Горты і шмат іншых.

*„Гуфцы“ зьбіраюцца.* „Гуфцы“ гэта абозы працы для моладзі ў Польшчы. Летась адзін гэткі гуфец быў у Шаркаўшчыне, Дзісенскага пав. і пакінуў па сабе ня мала ўспамінаў. Сёлета „гуфцы“ перайшлі пад вайсковую каманду, якая й абвесьціла прыймо ахвотнікаў — хлапцоў ад 18 да 20 гадоў. Прынятыя ў абоз („гуфец“) будуць даставаць страву, адзежу, казарменную кватэру і 30—50 гр. у дзень. Служба ў абозе трывае да двух гадоў.

*Абражалі польскі народ.* Статыстыка падлічыла, што за мін. 1936 год на ўсей Польшчы выдана было ў судох 1.500 (паўтары тысячы!) карных прыгавораў за абразу польскага народу.

## Навіны ў пяць радкоў

═ У Англіі йдуць прыгатаваньні да каранацыі новага караля Юрага VI. На гэту каранацыю запрошаны й цэсар падбітай італьянцамі Абісыніі Гайле Сэлясьсі. Італьянцы з гэтага вельмі нездаволены.

═ С. Орджонікідзэ камісар цяжкага промыслу СССР, грузін, памёр неспадзявана 19.II.37.

═ Ю. Пэн, ведамы артыст маляр Сав. Беларусі быў забіты ў Віцебску ўночы з 28.II. на 1.III. сёл. Нябожчык быў з паходжаньня жыдам і лічыў ужо 80 гадоў. Дагадваюцца, што прычыны забойства палітычныя.

═ Рэната Тыршова — жонка ідэолёга і закладчыка чэскага спартовага т-ва „Сокал“ Д-ра М. Тырша памярла на 83 годзе жыцьця, у Празе дня 22 лютага сёл. Нябожчыца да апошняга часу чынна займалася справамі дабрадзейнасьці.

## Цэны ў Вільні.

Хлеб белы — 36 гр., хлеб сітні — 34 гр., хлеб разовы — 28 гр., саланіна — 1.80 гр., сьвініна — 1.40 гр., валовіна — 80 гр., масла — 3. зл., малако літр — 20 гр.

**Зруб на хату** ў ваколіцах Міхалішак, Сьвіра, Клюшчан ці Лынтуп куплю зараз. Паведамленьні, разам з „астатняй“ цаной, кіраваць у рэдакцыю „Самапомачы“.

**Вазьму ў арэнду** гаспадарку ў 80—100 гэктараў з усім жывым і мёртвым інвэнтарам. Найлепш у Дзісенскім ці Вялейскім павеце. Паведамленьні кіраваць у рэдакцыю „Самапомачы“.

ПАДПІСКА на „Самапомач“: да канца году — 3 зл., на паўгода 1 зл. 75 гр. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам“. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС“.

BIBL... w Wilnie. im. Wrob...kich